# Новы манэўр Крамля

Варта прысьвяціць некалькі радкоў аднэй падзеі, якая ў нас праслізнулася бадай незаўважна. Вось-жа 2-га красавіка сёлета ў Маскве афіцыяльна паведамілі, што пры Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў будуць створаныя пэрманэнтныя (сталыя) місіі Беларускай і Украінскай ССР.

Як ведама, БССР і УССР зьяўляюцца сябрамі й сузакладчыкамі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Гэтага дамогся ў свой час Сталін із зусім відавочнай мэтай: мець два галасы больш у міжнароднай арганізацыі, ад якое тады ўсе спадзяваліся больш, чымся, як выявілася, яна ў сілах зрабіць — усё гэта зь віны Савецкага Саюзу, які ўсьцяж злаўжывае права вэта.

Пакінуўшы збоку матывы, якімі кіраваўся Сталін, дамагаючыся сяброўства для БССР і УССР у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, і той відавочны факт, што дэлегацыя БССР зьяўляецца ў АЗН толькі бязвольнай марыянэткай Крамля — усё-ж гэтае сяброўства мае для Беларусі й нашага вызвольнага руху дадатняе значэньне. Сяброўства БССР у АЗН — гэта аўтаматычнае прызнаньне Беларусі, як дзяржавы. Хоць гэта й фармальны бок справы, але для будучыні ён мае сваю вагу. Аб гэтым, як чытачы сабе напэўна прыгадваюць, пісаў нядаўна ў «Б-не» Ю. Дубовік.

Цяжка пакуль што сказаць, на што разьлічаны апошні манэўр Крамля. Вельмі магчыма, што гэты крок зроблены для нутранога ўжытку. БССР будзе хутка адзначаць саракагодзьдзе свайго йснаваньня. Чаму-ж бальшавіком не зайграць на нацыянальных пачуцьцях Беларусаў, дакінуўшы яшчэ адзін атрыбут «незалежнасьці», «дзяржаўнасьці»? Для некаторых, асабліва для моладзі, усё-ж прыемна ведаць, што ад гэтага часу «беларускі» прадстаўнік у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў мае годнасьць амбасадара...

Магчыма таксама, што новы манэўр разьлічаны й на вонкавы ўжытак. Ён можа прадказваць новую тактыку Крамля: хто ведае, ці ў хуткай будучыні маскоўскія марыянэткі — місіі БССР і УССР — не пачнуць праяўляць у АЗН асаблівай актыўнасьці, не пачнуць браць ініцыятывы ў пытаньнях, дзе сам СССР ня вельмі хоча выходзіць на першы плян.

Зробім кароткую гэнэзу сяброўства БССР і УССР у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Пад канец апошняй вайны Савецкі Саюз унёс папраўкі ў статус гэтых дзьвёх прыгранічных рэспублікаў — з тым, каб пасьля, у вадпаведны мамэнт, выкарыстаць іх на міжнародным форуме. Указам зь 1-га лютага 1944 году было пастаноўлена, што ў будучыні саюзныя рэспублікі могуць уваходзіць у беспасярэднія зносіны зь іншымі дзяржавамі ды падпісваць зь імі ўмовы. Адпаведна з гэтым указам, былі ўнесеныя папраўкі ў канстытуцыю. Вось як гучыць новы — 16а — артыкул канстытуцыі БССР:

«Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка мае права ўступаць у беспасярэднія зносіны з замежнымі дзяржавамі, заключаць зь імі пагадненьні і абменьвацца дыпляматычнымі й консульскімі прадстаўнікамі».

Мала таго — артыкул 16б гаворыць: «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка мае свае рэспубліканскія вайсковыя адзінкі».

Хіба будзе лішнім гаварыць, што як «дыпляматычных і консульскіх прадстаўнікоў», так і «рэспубліканскія вайсковыя адзінкі» БССР мае толькі на паперы, у канстытуцыі. У гэтым кірунку ня было зроблена ніякіх кроку, а навет, як пабачым пазьней, наадварот.

Як бы там ні было, гэтыя папраўкі дазволілі БССР і УССР узяць удзел у канфэрэнцыі ў Сан Францыско ды стацца сузакладчыкамі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, што дало СССР тры галасы ў Асамблеі АЗН. У 1948—49 гг. УССР была навет сябрам Рады Бясьпекі.

У пасьляваенны пэрыяд Савецкаму Саюзу было часта выгадна дзейнічаць на міжнародным форуме пад прыкрыцьцём — праз міністэрствы замежных справаў — абедзьвюх рэспублікаў. Прыкладам, не СССР, а БССР і УССР падпісалі ў 1945 годзе ўмову з УНРРА'й, у выніку якое Савецкі Саюз атрымаў паважную дапамогу. Што з гэтае дапамогі бачылі абедзьве рэспублікі — гэта іншая справа... Таксама ня СССР, а абедзьве рэспублікі падпісалі пагадненьні аб вызначэньні новых заходніх межаў Савецкага Саюзу. Прыгадаем, што такім пагадненьнем была аддадзеная Польшчы беларуская Беласточчына. Гэта хіба найлепш даводзіць марыянэткавасьць «беларускага ўраду», які, на загад Масквы, раськідаецца нашымі этнаграфічнымі тэрыторыямі.

БССР і УССР падпісалі таксама мірныя ўмовы з былымі саюзьнікамі Нямеччыны — з Баўгарыяй, Вугоршчынай, Румыніяй, Фінляндыяй і Італіяй. Урэшце, у 1955 годзе, яны, побач з іншымі дзяржавамі, падпісалі таксама Варшаўскі Пакт. Гэта хіба адзіны ў гісторыі выпадак, што краіны, якія ня маюць сваіх армій, падпісваюць вайсковы пакт...

У міжчасе, некаторыя заходнія дзяржавы, апіраючыся на факт сяброўства БССР і УССР у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, — што, як мы ўжо казалі, раўназначна фармальнаму прызнаньню іх усімі сябрамі АЗН як незалежных дзяржаваў, — пачалі рабіць захады аб навязаньні дыпляматычных дачыненьняў з абедзьвюма рэспублікамі. У 1947 г. ангельскі ўрад папрасіў савецкі ўрад праз свайго Шаржэ д'Афэр у Маскве перадаць ураду УССР прапанову навязаць дыпляматычныя дачыненьні між Вялікай Брытаніяй і УССР. Ангельшчына не атрымала ніякага адказу ні ад савецкага ўраду ні ад ураду УССР. Ангельшчына, якая — паводля афіцыяльных крыніцаў — зьбіралася зрабіць такія-ж захады ў дачыненьні да БССР, пабачыла, на прыкладзе з УССР, што рабіць гэтага няма ніякага сэнсу.

Палажэньне міністэрстваў замежных справаў БССР і УССР у працягу доўгага часу было наагул цікавым. Галоўныя гарады абедзьвюх рэспублікаў, а значыцца, і Менск і Кіеў, знаходзіліся ў гэтак званай «забароненай зоне». Гэта азначае, што дыпляматычныя прадстаўнікі заходніх дзяржаваў ня мелі магчымасьці наведаць гэтыя гарады, а гэтым самым і навязаць беспасярэднія кантакты зь міністэрствамі.

Пасьля Жэнэўскай канфэрэнцыі, у пэрыяд г. зв. «усьмешак», некаторыя заходнія дзяржавы вывучалі зноў магчымасьці навязаньня дыпляматычных дачыненьняў з БССР і УССР. Прыгадаем, што гэтая справа паважна дыскутавалася ў Кангрэсе Задзіночаных Штатаў. Аднак Савецкі Саюз да гэтага часу свае пазыцыі не зьмяніў, і ўсе спробы заходніх дзяржаваў ніякіх вынікаў не далі.

Як ведама, да апошняга часу адзінай функцыяй міністэрства замежных справаў БССР была рэпрэзэнтацыя ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Магчыма, што ўзьнікшае прадстаўніцтва ў АЗН да годнасьці пэрманэнтнае місіі азначае некаторую зьмену пазыцыі СССР. Магчыма, што міністэрства замежных справаў БССР хоць на вонкавы выгляд пашырыць свае кампэтэнцыі ды станецца больш самастойным. Калі-б заходнім дзяржавам удалося навязаць з БССР дыпляматычныя дачыненьні, дык гэта можна было-б толькі вітаць. Беларускі народ на гэтым толькі выйграў-бы — ня гледзячы на тое, што яго «рэпрэзэнтуе» цяпер зусім чужы яму — нацыянальна й палітычна — элемэнт.

**Ул. Немановіч**

# Францыя ў дні вялікіх выпрабаваньняў

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

Францыі мусяць быць як найхутчэй праведзеныя карэнныя дзяржаўныя рэформы, але толькі канстытуцыйным парляманцкім спосабам.

Другім зьяўляецца генэрал Дэ Голь, прыходу да ўлады якога настойліва патрабуюць альжырскія вайсковыя рэбэльянты. Дэ Голь ужо неаднакратна асьветчыў, што ён гатоў стаць на чале ўраду, калі гэтага запатрабуе народ, але падчыркнуў, што гэта можа зрабіць толькі легальнай канстытуцыйнай дарогай, а ня пры помачы рэвалюцыйнага перавароту. На сваей прэсавай канфэрэнцыі Дэ Голь даў зразумець, што ён ня мае дыктатарскіх намераў, заявіўшы: **«Ці магчыма падумаць, каб я ў веку 67 год пачаў дыктатарскую кар'еру?»** Дэ Голь зьяўляецца, аднак староньнікам улады сільнае рукі, і таму эвэнтуальная ягоная ўлада ня шмат розьнілася-б ад дыктатуры. Таму супраць прыходу да ўлады Дэ Голя станоўка выказваюцца радыкальныя й работніцкія колы, якія, на выпадак захапленьня ўлады Гэ Голем, ужо цяпер пагражаюць генэральным штрайкам. Дэ Голь зьяўляецца гарачым староньнікам канстытуцыйных рэформаў, а ў палітыцы замежнай — адбудаваньня значэньня Францыі ў сьвеце. Існуе, аднак, небясьпека, што амбітны генэрал, як староньнік незалежнай палітыкі Францыі, мог-бы аслабіць сувязь Францыі з заходнімі дзяржавамі й шукаць на собскую руку паразуменьня з Саветамі.

Напасьледак, трэйцім ёсьць галоўнакамандуючы францускімі збройнымі сіламі ў Альжыры генэрал Салян. Ягоная роля да сяньня яшчэ загадкавая й канчальна ня выкляраваная. З аднаго боку ён паддзержвае Дэ Голя, як будучага шэфа ўраду, зьяўляецца зьверхнікам генэрала Масу — старшыні Камітэту Грамадзкага Збаўленьня й поўнасьцю талеруе ягоную дзейнасьць. З другога боку, афіцыяльна маніфэстуе сваю ляяльнасьць да ўраду ў Парыжы ды цешыцца афіцыяльным даверам апошняга.

Выпадкі ў Францыі маюць вельмі важнае значэньне для ўсяго вольнага сьвету. Досыць глянуць на карту ды разважыць геапалітычнае палажэньне францускай тэрыторыі, як у Эўропе, гэтак і ў Паўночнай Афрыцы, каб зразумець, што бяз Францыі Атлянтычны абаронны саюз страціў-бы ўсю сваю вагу. І, наадварот, сіла й абароназдольнасьць гэтага саюзу вымагаюць сільнай, унутры скансалідаванай і мілітарна моцнай Францыі.

Што-ж датычыцца спэцыяльна Паўночнай Афрыкі, дык тут, апрача фактараў палітычных і мілітарных, граюць вялізарную ролю й мамэнты эканамічныя. Як ведама, у Сахары адкрытыя вялізарныя запасы нафты, якія ўжо ў пачатковай стадыі эксплятацыі і ў якую ўложаныя вялізарныя сумы. Экспэрты згадваюць, што сахарскія запасы нафты большыя, чымся на Сярэднім Усходзе. У выпадку адрэзаньня Саветамі даплыву нафты зь Сярэдняга Ўсходу, яе змагла-б рэкампэнсаваць для Эўропы нафта із Сахары.

Пры ўсім гэтым трэба ўзяць пад увагу адзін дзіўны парадокс сучаснасьці. Усюды там, адкуль выходзілі эўрапэйскія дзяржавы, аставалася звычайна пустое месца, якое ў сваю чаргу лёгка займаў Савецкі Саюз. Гэтак, калі Вялікабрытанія выйшла із зоны Суэскага каналу, пустое па ёй месца за пасярэдніцтвам Насэра занялі Саветы. Калі Вялікабрытанія пасьля апошняй вайны выціснула Францыю із Сырыі й не змагла там сама асталявацца, Сырыя, праз якую праходзяць нафтаправоды з Сярэдняга Ўсходу, падпала пад уплыў Эгіпту, а цераз яго — Савецкага Саюзу. Таму існуюць усе дадзеныя, што калі-б Францыя выйшла з Паўночнай Афрыкі, ейнае месца занялі-б Саветы.

Вось у гэтым і ўся важнасьць апошніх францускіх падзеяў для ўсяго вольнага сьвету. Таму хацелася-б надзеіцца, што францускае грамадзтва, а таксама ўвесь вольны сьвет належна зразумеюць усю павагу сытуацыі й зробяць усё магчымае, каб Францыя зь цяперашняга глыбокага й небясьпечнага крызісу выйшла пераможна.

**Язэп Каранэўскі**

# Беларускія традыцыі і бальшавікі

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьне»)**

Як адносяцца бальшавікі да нацыянальных традыцыяў падсавецкіх народаў? Адказаць можна адным словам: адмоўна. Аб гэтым сьветчыць саракагадовае дасьветчаньне бальшавіцкага панаваньня, асабліва ў нас на Беларусі. Трэба яшчэ дадаць, што гэтыя адмоўныя дачыненьні да самага апошняга часу былі не пасыўныя, а актыўныя — агрэсыўныя ў поўным значаньні гэтага слова. Тым большую цікавасьць выклікаюць нясьмелыя галасы ў вабароне нашых нацыянальных традыцыяў, што прагучэлі апошнім часам на балонах беларускай савецкай прэсы. Першым вартым увагі быў артыкул паэты Міхася Васілька, які зьявіўся нядаўна ў «Чырвонай Зьмене». Васілёк заклікае да адраджэньня некаторых нашых нацыянальных традыцыяў — у першую чаргу Купальля й Юр'я. Каб застрахавацца ад крытыкі казённых цівуноў, Васілёк засьцерагаецца, што з нацыянальных традыцыйных сьвятаў трэба выкінуць рэлігійную падкладку, усе перажыткі, інакш кажучы — усё несавецкае — і напоўніць іх савецкімі элемэнтамі. Васілёк не ўваходзіць у дэталі. А шкода — цікава было-б пачуць, як, на ягоную думку, выглядалі-б пасьля такой апэрацыі нашы традыцыйныя сьвяты.

На артыкул Васілька хутка зьявіўся водгук у тэй-жа «Чырвонай Зьмене». 11 траўня там зьявілася зацемка пад ідылічным загалоўкам: «Ты плыві, вянок...» Аўтары зацемкі прысутнічалі на латыскім нацыянальным сьвяце «Ліго», якое адпавядае прыблізна нашаму Купальлю. У Латвіі бальшавікі не пасьпелі яшчэ вынішчыць нацыянальных традыцыяў у такой ступені, як у нас на Беларусі, і цяпер яны прымушаныя глядзець на гэтыя традыцыі праз пальцы. Пад уражаньнем бачанага, аўтары зацемкі ў «Чырвонай Зьмене» ўсклікаюць: «А хіба няма ў нас сваіх нацыянальных традыцыяў, свайго нявычэрпнага фальклёру...? Ці маем мы права забыцца іх?»

Пытаньне пастаўленае добра і ў пару. Няма сумлеву, што казённыя пісакі абыйдуць яго моўчкі, бо адказ на яго вельмі сумны: так, нашы традыцыі багатыя й прыгожыя, але бальшавікі іх сыстэматычна й плянава вынішчаюць, як вынішчаюць і тых, хто іх культывуе й пашырае.

Аўтары зацемкі «Ты плыві, вянок», адклікаючыся на артыкул Васілька, прапануюць у дачыненьні да нашага традыцыйнага Купальля больш як дзіўны выхад: спалучыць адзначэньне гэтага сьвята з «Днём савецкай моладзі», надаўна вызначаным партыяй на 29 чэр-

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

**Ст. Станкевіч**

# Максім Багдановіч

**(10. 12. 1891 — 25. 5. 1917)**

Беларускія паэты нашаніўскага адраджэнства свае веданьне беларускага народнага жыцьця й мовы вынесьлі з роднае хаты, а пазьней пашырылі й паглыбілі дзякуючы беспасярэдняй сувязі зь беларускімі народнымі масамі, зь якіх яны выйшлі, лучнасьць зь якімі ўвесь час трымалі й пад узьдзеяньнем якіх жылі й тварылі. Беларуская народная стыхія, з усёй ейнай разнастайнасьцю й апрычонасьцю, была іхнай собскай стыхіяй.

Зусім інакш было з Максімам Багдановічам. Ягоны бацька Адам, хаця й сялянскага паходжаньня, але, скончыўшы Нясьвіскую вучыцельскую сэмінарыю, працаваў спачатку настаўнікам, пасьлей банкаўскім чыноўнікам і вёў гарадзкое жыцьцё. Матка паэты Марыля была дачкой дробнага чыноўніка, а па матцы й продках бацькі паходзіла із сьвятарскае сям'і. Такім чынам бацькі паэты тварылі тыповую інтэлігенцкую сям'ю, у якой, праўда, сьвята перахоўваліся й культываваліся беларускія народныя традыцыі, панавала, аднак, расейская культура й расейская мова. Нарадзіўшыся ў Менску 10 сьнежня (27 лістапада ст. ст.) 1891 году Максім Багдановіч на шостым месяцы жыцьця пераехаў у 1892 г. зь сям'ёю ў Гарадзень, каб на шостым годзе жыцьця пераехаць у 1896 г. з бацькамі на сталае жыцьцё ў Расею. Да 1908 г. ён жыве ў Ніжнім Ноўгарадзе і вучыцца ў мясцовай гімназіі, ад 1908 г. у Яраслаўлі, дзе скончыў юрыдычны ліцэй, а кароткі перадсьмертны пэрыяд свайго жыцьця знаходзіцца ў Крыме. І толькі пасьля сканчэньня гімназіі ў 1911 г. Багдановіч, каб наведаць родную бацькаўшчыну, аб якой у ягонай памяці зь дзіцячага побыту ў ёй, хіба-ж, нічога не асталося, адведаў Вільню і прабыў каля месяца часу на вёсцы між Вялейкай і Менскам у сваякоў Антона Луцкевіча. Другі і ўжо апошні раз паэта прыехаў у Беларусь у кастрычніку 1916 г. і ўладзіўся ў Менску на працу ў "Губернским Продовольственным Комитете" ды поўнасьцю ўключыўся ў беларускі рух і беларускае жыцьцё. Але сухоты, якія мучылі паэту ад даўжэйшага часу, шыбка падкошвалі ягоныя апошнія сілы, і паэта змушаны быў у лютым 1917 г. выехаць на лячэньне ў Ялту, дзе і памёр адзінокім 25 траўня (12 ст. ст.) 1917 году.

Такім чынам знаёмства Багдановіча з родным краем і беларушчынай да 1911 г. было вылучна кніжнае, часткова перанятае зь сямейнае традыцыі. Асабліва жывой была ў сям'і Багдановічаў беларуская фальклёрная традыцыя, пераказаная ў спадчыне прабабкай паэты Разаліяй, якая славілася таленавітай казачніцай і песеньніцай ды была навет вясковай варажбіткай. Бацька паэты ў сваіх рукапісных успамінах сьветчыць, што на пераказаньні ёй у спадчыне фальклёрным матар'яле паўстаў ведамы ягоны фальклярыстычны зборнік «Пережитки древнего миросозерцания у Белоруссов», які быў выдадзены ў Горадні ў 1895 г.[1]

Максім Багдановіч яшчэ ў хлапецкія гады ўважна перачытваў гэты зборнік, які праф. І. Замоцін лічыць «аднэю з важных крыніц творчасьці» Багдановіча,[2] а таксама свае веды ў галіне беларускай фальклёрнай традыцыі старанна папаўняў зь беларускіх этнаграфічных зборнікаў Раманава й Шэйна, якія знаходзіліся ў бібліятэцы ягонага бацькі.[3] Другой крыніцай духовай сувязі зь беларушчынай былі творы беларускіх паэтаў XIX стг., галоўна В. Дуніна-Марцінкевіча й Ф. Багушэвіча, а таксама газэты «Наша Доля» й «Наша Ніва», якія з самага пачатку свайго выхаду былі Багдановічу даступныя.[4]

Ня гледзячы на адарванасьць ад роднага краю й толькі кніжнае знаёмства зь ім, Багдановіч ужо ў свае хлапецкія гады адчуваў у сабе глыбокую стыхійную любоў да ўсяго, што складалася на зьмест слова Беларусь, і гэтае шчырае патрыятычнае пачуцьцё з кажным годам разьвівалася й паглыблялася. Пачынаючы яшчэ зь першых гімназіяльных клясаў, ён зь вялікай прагнасьцю й настойлівасьцю стараецца як найбольш даведацца пра далёкую бацькаўшчыну й навучыцца практычна ўладаць беларускай мовай.

Паходжаньне Багдановіча з культурна абруселае інтэлігенцкае сям'і, поўная ізаляцыя ад беларускага краю й народу, а так-жа й расейскае школьнае выхаваньне стварылі ўсе перадумовы для таго, каб Багдановіч у сваім адчуваньні стаўся Расейцам, як у падобных выпадках пераважна ў той час здаралася, або ў найлепшым выпадку быў абыякавым да беларускасьці. Ня гледзячы на ўсё гэта, Багдановіч стаўся гарачым беларускім патрыётам і глыбокім нацыянальным паэтам. Шчырыя нацыянальныя пачуцьці й бязьмежная любоў Беларусі сталіся арганічнай часткаю ягонае душы й найбагацейшым элемэнтам ягонай творчасьці.

Першым друкаваным творам Багдановіча было кароткае празаічнае апавяданьне «Музыка», якое паявілася ў № 24 «Нашай Нівы» за 1907 год. Зь вершаваных ягоных твораў першым паявіўся толькі ў № 1 «Нашай Нівы» за 1909 год верш «Над магілай мужыка». Пасьля гэтага творы Багдановіча паяўляюцца сыстэматычна ў беларускім пэрыядычным друку, галоўна ў «Нашай Ніве», а ў 1913 годзе выходзіць у Вільні першы й адзіны, старанна прыгатаваны самым аўтарам, зборнік выбраных вершаў «Вянок». Нямала сваіх твораў і артыкулаў друкаваў паэта ў расейскіх і ўкраінскіх газэтах, а шмат пакінуў у рукапісах, што ўпяршыню былі надрукаваныя ў двухтомным акадэмічным выданьні «Твораў М. Багдановіча» ў Менску 1927—1928 г.

* * *

Аснаўная тэматыка творчасьці Багдановіча была наскрозь беларуская.

Апрача асабістых перажываньняў, якім адводзіў шмат месца, філязафічных рэфлексіяў на агульналюдзкія тэмы, прыгожай плятанічна-рамантычнай лірыкі каханьня, паэта з глыбокім лірычным перажываньнем рэагаваў на абразы й зьявы роднае беларускае прыроды, шырака й арыгінальна выкарыстоўваў матывы беларускае народнае творчасьці, адтвараў у сваіх творах візію беларускае гістарычнае мінуўшчыні. Адначасна паэта чула адклікаўся й на актуальныя нацыянальныя й сацыяльныя праблемы беларускага народу, будучы такім чынам, падобна як і ягоныя нашаніўскія сучасьнікі, паэтам-адраджэнцам у поўным значэньні гэтага слова.

Доўгая ізаляванасьць Багдановіча ад бацькаўшчыны й адсутнасьць беспасярэдняга знаёмства зь беларускім жыцьцём былі натуральнымі прычынамі, што ў творах да 1911 году Беларусь яшчэ не набыла выразна канкрэтнага характару, а паяўлялася ў вагульнай і ня рэдка абстрактнай форме, так як яна зарысоўвалася ў візіі паэты. Затое кароткі побыт у Беларусі летам 1911 году, асабістае знаёмства й доўгія гутаркі з нашаніўскімі правадырамі Антонам Луцкевічам і асабліва з Вацлавам Ластоўскім, які зьвярнуў на маладога паэту вялікую ўвагу й зрабіў на яго карысны ўплыў, паглыбілі й сканкрэтызавалі ўяўленьне паэты аб родным краі й ягоным народзе. Гэта знайшло выразны адбітак у далейшай творчасьці паэты, у якой беларуская тэматыка пачынае адыгрываць яшчэ большую, чымся дагэтуль, ролю. У Вільні Багдановіч упяршыню пазнаёміўся з прадметамі беларускай старасьвеччыны, што знаходзіліся ў зборах Івана Луцкевіча і пазьней пала-

# „Жандары паломаных акоў“

«...Былых ня выклічаш вякоў
І ты, Масквы каронная гразь,
Парваных ня скуеш акоў,
Зь якой брахнёю ня вылазь!»
(Янка Купала,
**«Акоў паломаных жандар ...»**)

У травеньскім нумары «Часовага», воргане чарнасоценскага «Российского Национального Движения», што выдаецца ў Брукселі пад рэдактарствам В. Арэхава, зьявіліся водгукі на адзначэньне Беларусамі ў вольным сьвеце свайго нацыянальнага сьвята — 25 Сакавіка. Праўда, гэтыя «водгукі» не павінны былі-б заслугоўваць на асаблівую ўвагу ў выпадку, калі-б хоць і антыбеларускага характару, былі прызначаны адмыслова для хранікальнага паінфармаваньня расейскага грамадзтва, і не нагадвалі сабой савецкую «інфармацыйную» ці «гістарычную» літаратуру. Гэта — шавіністычны плач расейскіх вялікадзяржаўнікаў, прызначаны аднак для **«гістарычнага** паінфармаваньня заходняга грамадзтва ў стылю савецкіх дыялектычных вывадаў.

У разгляданым нумары воргану зьмешчаны дзьве інфармацыі, адна зь якіх — «Да саракагодзьдзя незалежнасьці Беларусі» — «адраджае» гісторыю беларускага нацыянальнага руху, і другая, зьмешчаная пад назовам «Дзіўная ўрачыстасьць у Нью Ёрку», — інфармуе пра прабег сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў Амэрыцы. Абедзьве гэтыя інфармацыі, скіраваныя на ачарненьне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, зьяўляюцца зласьлівай маной і абразьлівым пашквілем, які пазбаўлены навет элемэнтарнай этыкі палітычнае палемікі. Іхняй галоўнай тэзай ёсьць тое, што беларускі «сэпаратызм» штучна быў створаны Палякамі, і галоўным чынам Немцамі, якія працягваючы свае рукі ў расейскі «агарод», вышуквалі пабочных дапамаговых сілаў для асягненьня сваіх мэтаў. Такім чынам быццам, беларускага нацыянальна-вызвольнага руху як такога наагул ня існуе, а існуюць паасобныя «зьбеларушчаныя гадунцы» польскага й нямецкага імпэрыялізму ды савецкі «беларускі эрзац», які зьявіўся неабходным вынікам савецкае нацыянальнае палітыкі.

Для абгрунтаваньня гэтае свае тэзы, аўтары названых пашквіляў паклікаюцца на факт, што беларускі нацыянальны рух стаў асабліва разьвівацца пад час нямецка-расейскае вайны і ў той частцы Беларусі, якая знаходзілася на нямецкім баку. Для доказу, яны навет прыводзяць імя нямецкага місіянэра для беларусізацыі Беларусаў — прафэсара Абіхта, — які, быццам, прыехаўшы восеняй 1915 году ў Вільню, прыцягнае да «супрацоўніцтва» Ластоўскага й Луцкевіча, што дасюль знаходзіліся на «кармленьні» Палякоў, засноўвае Беларускую Раду, выдае беларускую газэту, **навет пішучы** адначасна для Беларусаў **беларускі правапіс(!)** Беларускі нацыянальна-вызвольны рух, які разьвіваўся ў гэты час на расейскім баку лініі фронту, асабліва ў Менску і пасьля лютаўскай рэвалюцыі, яны таксама зводзяць да авантуры «кучкі» «сэпаратыстых» неакрэсьленага паходжаньня. Першы Ўсебеларускі Кангрэс канца 1917 году зводзіцца да бясправнага зборышча гэтых «авантурнікаў» і «зьведзенае» імі публікі ў ліку 1 167 (!) чалавек, ды на якім «беларускія сэпаратыстыя» пацярпелі крах з прычыны таго, што Немцы «не дагадаліся ў час перакінуць у Менск сваіх віленскіх гадунцоў», як гэта яны зрабілі ў выпадку Леніна. Гэтае «зборышча», на зло «сэпаратыстым», выказалася за «цесную фэдэратыўную сувязь з Расеяй». Разагнаныя бальшавікамі, за тое, што «ня прызналі» савецкае ўлады, «беларускія сэпаратыстыя» ўжо адны, **«з жонкамі й цёшчамі ў ліку 71 чалавек»**, ствараюць Беларускую Раду, якая, «невядома на якой аснове», бярэцца рэпрэзантаваць так званую «волю» разагнанага зьезду. Падчас нямецкае акупацыі Менску і зь ініцыятывы Немцаў гэтая Рада «сэпаратыстых» абвяшчае гэтак званую «Незалежную Беларускую Рэспубліку». У 1925 годзе Беларуская Рада й Урад самаліквідуюцца, і ўсе «беларускія міністры й сябры Рады» «пераходзяць» на службу да бальшавікоў.

Адным словам, глядзеце Амэрыканцы, зь кім вы маеце дачыненьне, прыймаючы ўдзел у сьвяткаваньні 25 Сакавіка. Ды зрэшты Амэрыканцы абвінавачваюцца адкрыта ў «тэндэнцыях разьдзяліць Расею», хоць, праўда, гэтае абвінавачваньне называецца падтрымоўваньнем «нямецкае агентуры адносна матушкі-Расеі». Аўтары пашквіляў зь ліку расейскіх чарнасоценцаў адкрыта заяўляюць, што «ў сувязі з апісаным сходам (сакавіковымі ўрачыстасьцямі ў Нью Ёрку) напрашваецца пытаньне, — што можа быць агульнага між палітыкай і дзеямі кайзараўскай Нямеччыны ды дэмакратычнай Амэрыкі, прадстаўнікі якой наважліва палічылі патрэбным адзначыць гэтую нямецкую прапагандовую **акцыю».**

Гісторыя беларускага нацыянальна-вызвольнага руху ў бягучым стагодзьдзі, асабліва з часоў першае сьветавае вайны, знайшла сваё насьвятленьне ў шматлікіх працах, манаграфіях, пэрыёдыках і ў газэтах, таксама і ў газэце «Бацькаўшчына», а таму няма сэнсу тут паўтарацца, каб гэтым самым наглядней паказаць характар разгляданых пашквіляў (праўда, яны і бяз гэтага раскрываюць самі сябе сваёй шавіністычнай нянавісьцяй, грубым бяздоказным хвальшаваньнем праўды й пярэчлівымі вывадамі). Мы тут абмяжуемся заўвагамі агульнага характару, якіх будзе дастаткова, каб паказаць нахабнасьць вялікадзяржаўнікаў з асяродзьдзя «Российского Национального Движения».

Успомненыя чарнасоценцы зводзяць беларускі нацыянальна-вызвольны рух да акцыі пару дзясяткаў «здраднікаў народу», падкупленых чужаземнай агентурай, у дадзеным выпадку польскай і нямецкай, ці навет і амэрыканскай. Чыста савецкія мэтады й аргумэнтацыя, бо й бальшавікі ўважаюць нацыянальныя імкненьні народаў за чужаземную агентуру, ведама, толькі ня імкненьні ра-

*(Заканчэньне на 4-ай бачыне)*

# Беларускія традыцыі і бальшавікі

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

веня. Што можа выйсьці з гэтага своеасаблівага гібрыду — спалучэньня нацыянальнай традыцыі з бальшавіцкай прапагандай — навет уявіць сабе цяжка.

У «Чырвонай Зьмене» чытаем: «Шмат зьвязана ў беларускага народу з прыгожымі й паэтычнымі купальскімі паданьнямі. І цяпер нашы кампазытары, паэты, драматургі зноў і зноў вяртаюцца да іх...»

Вось аб гэтым «зноў і зноў» і трэба сказаць некалькі словаў. У 1921 годзе — тады, калі бальшавікі яшчэ не пасьпелі заціснуць у сваіх кіпцюрох усё культурнае жыцьцё, была пастаўлена выдатная музычная драма «Купальле» на словы ведамага паэты Міхася Чарота; музыку да яе напісаў кампазытар Уладзімер Тэраўскі. Драма «Купальле» адлюстроўвала праўдзіва жыцьцё беларускай вёскі й нашае найбольшае традыцыйнае нацыянальнае сьвята. Драма карысталася нябывальным посьпехам. Міхась Чарот выявіў у ёй увесь свой багаты талент, музыка-ж Тэраўскага зрабіла зь яе запраўдны шэдэўр. І хоць у драме гэтай ня было нічога антысавецкага, бальшавіцкім валадаром была яна не на руку. Не памагло Чароту й тое, што быў ён сябрам камуністычнае партыі. Драма была забароненая, а паэта й кампазытар абодва загінулі ў бальшавіцкім зьняволеньні.

Цяпер чуваць паасобныя галасы з дамаганьнем рэгабілітаваць Чарота й аднавіць музычную драму «Купальле». Калі-б да гэтага й дайшло, дык напэўна яе адпаведна перапрацавалі-б: галоўным гэроем быў-бы хіба камсамолец, які гаварыў-бы прапагандовыя прамовы... Гэта не аднаўленьне нацыянальных традыцыяў, а толькі глум над імі.

Аднак традыцыі гэтыя не загінуць — яны пераживуць бальшавікоў. У вольнай Беларусі Купальле зойме пачэснае месца паміж іншых нашых традыцыйных сьвятаў.

**У. Н.**

# Парад Ляяльнасьці ў Нью Ёрку ўшанаваў незалежнасьць БНР

Ужо адзінаццаты раз апошняя сыбота красавіка была адзначаная ў Нью-Ёрку Парадам Ляяльнасьці. Заініцыяванае амэрыканскімі Вэтэранамі Замежных Войнаў, сьвята гэтае сталася антыкамуністычнай маніфэстацыяй — у супрацьвагу сталаму злаўжываньню амэрыканскімі камуністымі й іхнымі «спадарожнікамі» першамайскага сьвята,ператваранага тут у падтрымоўваньне бальшавіцкага антынароднага зьдзеку. Дзеля гэтае прычыны Парад Ляяльнасьці й адбываецца напярэдадні першага мая.

Галоўнае для параду — гэта пагода. Сёлета пашанцавала на яе. Сонечны, хоць крыху ветраны дзень, прыцягнуў даволі вялікую колькасьць удзельнікаў: 25 тысячаў дэманстрантаў і каля 150 тысячаў глядачоў.

Беларуская калёна па Парадзе выглядала маналітней і весялей за мінулагодния. Прапорцыі штагоду мяняюцца: сёлета было больш моладзі, а таксама (няхай будзе сорам мужчынам) больш жанок. Было таксама больш і нацыянальнае вопраткі, што асабліва важна для выгляду калёны. Нат няпрыязнае «Новае Русскае Слова» не магло не адзначыць гэтых асаблівасьцяў беларускае групы. «На рагу 62 вуліцы й Мэдысон эвэню зварачала на сябе ўвагу беларуская моладзь у нацыянальнай вопратцы» — адцеміла «НРС», каб пасьля ўсклікнуць: «А где же представители патриотических организаций русской молодежи?» (29. IV. 58.).

Дагэтуль Парады Ляяльнасьці хадзілі па верхняй частцы Пятае эвэню (ад 90-х вуліцаў да 60-ае). З гледзішча на прапаганду і самога Параду і ўсіх ягоных транспарэнтаў, месца гэтае было менш зручнае, бо з аднаго боку праспэкту — парк, а з другога — малалюдныя асабнякі. Сёлета было пастаноўлена, пасьля войстрых спрэчак у мэрыі (Сыты Каўнсыл), перанесьці парад у цэнтральную частку места — ад 63-яе вуліцы да 38-ае. Трыбуна для прыйма параду была пастаўлена перад Публічнай Бібліятэкай, што паміж 42-ой і 41-ай вуліцамі.

Парад Ляяльнасьці складаецца зь колькіх г. зв. «дывізіяў». Наперадзе параду йдуць арганізацыі амэрыканскіх вэтэранаў, пасьля — рэлігійныя, школьныя, харытатыўныя і ўсялякія іншыя. Асобнай «дывізіяй» на парадзе йдуць нацыянальныя групы — сама розныя — ад Ірляндцаў да Партарыканцаў. Сёлета першымі ў нацыянальнай дывізіі йшлі: Украінцы, Беларусы, Эстонцы, Латышы й Лятувісы ў знак ушанаваньня 40-ых угодкаў абвешчаньня незалежных дзяржаваў гэтых пяцёх народаў. На чале беларускае калёны, як заўсёды, ішлі беларускія вэтэраны із сваім сьцягам. Калёну вёў старшыня акруговае ўправы БАЗА сп. К. Мярляк. Ганаровым маршалам на Парадзе ад Беларусаў быў гэн. Ф. Кушаль, а старшыня БАЗА мгр. М. Кунцэвіч — ягоным заступнікам.

**З.**




**Частка беларускае калёны на Парадзе Ляяльнасьці ў Нью-Ёрку 26 красавіка 1958 году**

жылі аснову для зарганізаванага ім беларускага музэю ў Вільні. На Багдановіча вялікае ўражаньне зрабілі рукапісныя славянскія кнігі, розныя іншыя памятнікі старасьвеччыны й асабліва слуцкія паясы, ад чаго вядзе свой пачатак паэтычны задум верша «Слуцкія ткачыхі». Прабываючы на вёсцы ў сваякоў Антона Луцкевіча, Багдановіч напісаў рад лепшых сваіх вершаў, што ўвайшлі ў цыкль «Старая Беларусь», цыкль вершаў «Места» й кароценькія паэмкі, абнятыя цыклем «Мадонны» — «У вёсцы» і «Вэраніка», у якіх «адбілася ўвязка яго творчасьці з уражаньнямі ад беларускай вёскі, ад Вільні, ад беларускай старасьвеччыны і ад гутарак з Ластоўскім», як сьцьвярджае праф. І. Замоцін.[5])

Быў таксама карысным і другі побыт Багдановіча ў Беларусі ў 1916—1917 г., а цесныя кантакты зь беларускімі дзеячамі, навязаныя ў гэтым часе, галоўна з паэтам З. Бядуляй, у якога на гасподзе Багдановіч жыў у Менску, значна паглыбілі духовую лучнасьць паэты зь беларускім жыцьцём. Гэты побыт у беларускім асяродзьдзі й актыўны асабісты ўдзел у беларускім руху меў вялікі запладняючы ўплыў на ягоную творчасьць. Між іншым, у гэтым часе паўстаў глыбока патрыятычны верш Багдановіча «Пагоня».

Уніклівую характарыстыку беларускасьці Багдановічавае творчасьці даў праф. І. Замоцін:

«Першым момантам, што бязумоўна пераважае сярод іншых уплываў і матарыялаў, якія жывілі яго музу, трэба лічыць яго ўражаньні ад бацькаўшчыны і ўсяго таго, што так ці іначай было зь ёю зьвязана. Называючы гэты мамэнт першым і пераважным, я раблю гэта не для штучнае, надуманае схэмы, у якой для М. Багдановіча, як беларускага паэты, на першым пляне, як крыніца, абавязкова павіна стаяць Беларусь. Не, я выходжу з пэўных фактаў, якія я толькі што ўстанавіў. У самай рэчы, беларускія ўражаньні і ўплывы праходзяць асноўнай рысай цераз усё нядоўгае жыцьцё М. Багдановіча і праз усю яго творчасьць. Паміж іншым, увагу яго чытача мімавольна спыняе адна характэрная акалічнасьць: пераглядаючы том яго вершаў, толькі зрэдку можна сустрэць вершаваны радок ці невялічкую вершаваную п'еску, навеяную абставінамі і ўражаньнямі, якія тапаграфічна і псыхалягічна знаходзяцца вонках яго бацькаўшчыны і зьвязаных зь ёю пытаньняў. Чаму так? Чаму паэта, які пражыў сваё маленства і юнацтва ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, не адбіў у сваіх вершах уражаньняў Паволжа, быту расейскіх губэрнскіх гарадоў, прыуральскага стэпу, дзе ён некалькі разоў летаваў, Крыму, дзе ён жыў і лячыўся, і г. д.? Гэтага аніяк нельга вытлумачыць недахватам яго ўражлівасьці ці недахватам таго матарыялу з галіны прыроды і быту, якія ён назіраў вонках свае бацькаўшчыны. Гэта можна вытлумачыць толькі тым, што ён усё сваё нядоўгае жыцьцё, у парадку све нутранае маральнае дысцыпліны, цалкам аддаў бацькаўшчыне, што ён сам пасьвяціў сябе ў рыцары гэтай «даме» свайго юнацкага раману, што ён, зьвязаны сваёй любасьцю да бацькаўшчыны і слугаваньнем ёй, мысьліў сябе нявольным аддаваць сваё натхненьне чаму-небудзь і каму-небудзь іншаму, апрача тэй — скажам словамі яго паэтычнай сымболікі — «Мадонны», якая была для яго lumen coeli, sancta rosa і якой аднэй ён мог, як паэта, маліцца і слугаваць»[6].

Да вышэй прыведзенай характарыстыкі Багдановіча, як беларускага нацыянальнага паэты, дадаць нічога не астаецца. Гэты глыбокі нацыянальны характар ягонае творчасьці, ягоная бязьмежная любоў роднага краю й ахвярнае слугаваньне яму і далі падставу З. Бядулі ў ягоным нэкралёгу аб Багдановічу выказаць упэўненасьць, што «на скрыжалях адраджэньня роднага краю яго імя будзе зьзяць у небе Беларусі сьветлай зоркай навекі»[7].

Пры ўсім гэтым трэба падчыркнуць, што нацыянальны характар Багдановічае паэзіі ня быў вузкім і абмежаваньм да беларускае нацыянальнае й адным толькі Беларусам блізкае й зразумелае спэцыфікі, але цесна злучаўся з элемэнтамі агульналюдзкімі. Багдановіч, глыбока абзнаёмлены з заходняэўрапэйскай культурай і паэзіяй ды знаходзячыся ўвесь час пад ейным магутным уплывам, быў сам у культурным сэньсе наскрозь эўрапэйцам і патрапіў сваім творам, аснованым на беларускім матарыяле, надаць агульналюдзкі характар. Гэтую важную й ад іншых нашаніўцаў адменную рысу Багдановічавае творчасьці першым выразна адзначыў Антон Навіна (Антон Луцкевіч) у сваіх нарысах «Нашы песьняры»:

«Гэта нічога, што паэта зь любасьці выбірае матывы родныя — беларускія, у іх ён заўсёды ўмеў знайсьці асноўны агульна-людзкі мамэнт. Яго верш гэтак сама гаворыць Беларусу, як і чужынцу, падобна як музыка вялікага маскоўскага кампазытара Чайкоўскага, што карыстаўся матывамі свайго народу, роўна прамаўляе да душы кажнага чалавека незалежна ад яго нацыянальнасьці. Бо М. Багдановіч не фатаграфуе жыцьця, а нанава ператварае ў сваёй чуткай, далікатнай і асабліва інтэлігентнай душы»[8].

* * *

У сваім артыкуле «Забыты шлях» Багдановіч пісаў: «Намагаючыся зрабіць нашу паэзію ня толькі мовай, але і духам, і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі-б цяжкую памылку, калі-б кінулі тую вывучку, што нам дала сьветавая (найчасьцей эўрапэйская) паэзія... Было-б горш, чым нядбальствам, нічога ня ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы год зьбіралі ў скарбніцу сьветавай культуры». У гэтым сьцьверджаньні самога паэты і хаваецца сакрэт таго, што, як адцеміў А. Навіна, Багдановічаў «верш гэтак сама гаворыць Беларусу, як і чужынцу».

Гэтаму свайму перакананьню аб неабходнасьці ўзбагачваньня беларускае літаратуры найлепшымі ўзорамі сьветавай паэзіі, галоўна заходняэўрапэйскай верна служыў Багдановіч у сваіх творах Ня гледзячы на сваю юрыдычную асьвету, ён, як глыбокі інтэлектуалісты і ўсьцяж прагны веды, шляхам самаадукацыі здабыў грунтоўную знаёмасьць заходняэўрапэйскай літаратуры, як найвейшай і яму сучаснай, гэтак і клясычнай. Трэба думаць, што якраз гэтыя веды й спрычыніліся да выпрацаваньня ягонага пагляду на істоту й ролю літаратурнага мастацтва, на перавагу ягоных эстэтычных функцыяў над яе ўтылітарнай роляй і, напасьледак, да стаўляньня срогіх вымаганьняў да аўтараў, аб чым будзе падробна мова ніжэй. З другога боку, добрае веданьне заходняэўрапэйскай літаратуры памагло Багдановічу прысвоіць собскай паэзіі найлепшыя ейныя ўзоры і самому падняцца да ейнага ўзроўню. Багдановіч прышчапіў беларускай літараюуры найбольш цікавыя жанры й формы ня толькі яму сучаснай, але й клясычнай заходняэўрапэйскай паэзіі. У выдадзеным пры жыцьці паэты зборніку ягоных вершаў «Вянок» знаходзім асобны разьдзел «Старая спадчына», а ў ім такія ўзоры заходняй літаратурнай клясыкі, як пэнтамэтры, санэты, трыалеты, рондо, актавы, тэрцыны, умела перанесеныя на беларускаю літаратурную глебу.

---

1) І. Замоцін. М. Багдановіч. Крытычна-біографічны нарыс. «Творы М. Багдановіча», т. II, Менск, 1928, б. XI—XII.
2) Тамсама, б. XII.
3) Тамсама, б. XXI.
4) Тамсама, б. XXXV.
5) Тамсама, б. XXXVI.
6) Тамсама, б. LVI—LVII.
7) «Вольная Беларусь» за 1917 г. Цытуецца паводля А. Бабарэкі. Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках. «Узвышша», № 2, Менск, 1927, б. 145.
8) Цытуецца паводля Бабарэкі, тамсама, б. 147.

**(Працяг у наступным нумары)**

